


Інфармацыйная культурна-грамадская газета Гарадоччыны

# ГАСЦІНЕЦ

№ 3 (319) ЛЮТЫ 2022 ГОДА

**БЕЛАРУСКАЯ ПРЫМАЎКА**
**Няма такога благога, каб на добрае не выйшла.**

НАШ ЗЯМЛЯК

## ЛЁС НАШАГА ЗЯМЛЯКА – РЭКТАРА БДУ

**Споўнілася 130 гадоў, як 24 лютага 1892 году нарадзіўся Іван Фядотавіч Ермакоў педагог, актыўны ўдзельнік беларусізацыі, рэктар БДУ. Што пішыцца пра яго ў кнізе «Гісторыя Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта ў біяграфіях яго рэктараў»?**

Іван Фядотавіч Ермакоў нарадзіўся ў вёсцы Прудніка̀ва (рэд. - у кнізе "Памяць" вёска Пруднікі) Гарадоцкага павета Віцебскай губерні ў сям'і селяніна-серадняка. Іван Фядотавіч скончыў у 1911 г. настаўніцкую семінарыю — сярэдне-педагагічную навучальную ўстанову, якая ў дарэвалюцыйны час рыхтавала настаўнікаў для пачатковых школ.

Знаходзілася яна ў Полацку. У семінарыю прымалі асоб усіх сасловяў, якія мелі 16 гадоў і скончылі народнае пачатковае вучылішча. Пасля настаўнічаў у Пушчанскім народным вучылішчы Гарадоцкага павета. Потым яго забралі ў салдаты: да 1917 г. ён удзельнічаў у першай сусветнай вайне. У 1918 г. ён уступіў у ВКП(б). У час грамадзянскай вайны па першай партыйнай мабілізацыі быў пасланы на ўсходні фронт. Пасля ўдзельнічаў у баях і на паўднёвым фронце ў якасці камісара стралковага палка. Пасля грамадзянскай вайны і дэмабілізацыі І. Ф. Ермакоў працуе ў розных партыйных і савецкіх установах.

На Віцебшчыну ён вяртаецца ў 1925 г. У 1926 г. І. Ф. Ермакова накіравалі ў г. Мазыр загадчыкам акруговага аддзела народнай асветы. Вялікую дапамогу на пачатку гэтай працы І. Ф. Ермакову аказаў інспектар школ НКА Беларусі А. Аніхоўскі (дарэчы, выпускнік БДУ). І. Ф. Ермакоў актыўна ўключыўся ў працу па беларусізацыі школ і іншых устаноў. Плённая дзейнасць І. Ф. Ермакова была адзначана пуцёўкай у Крым у дом адпачынку працаўнікоў народнай асветы. Там ён сустрэўся з тагачасным наркомам асветы БССР А. В. Баліцкім. У 1928 г. па прапанове А. В. Баліцкага І. Ф. Ермакова прызначылі загадчыкам Менскага акруговага аддзела народнай асветы. На гэтай пасадзе І. Ф. Ермакоў дбаў пра адкрыццё новых школ, хат-чытален. На нарадах ён адзначаў неабходнасць таго, каб беларускія дзеці вучыліся ў беларускіх школах, яўрэйскія — у яўрэйскіх, польскія — у польскіх, рускія — у рускіх. Клапаціўся І. Ф. Ермакоў і аб адпаведных настаўніцкіх кадрах, зважаючы больш на іх прафесійныя якасці, а не на сацыяльнае паходжанне.

У ліпені 1930 г. Менская акруга была ліквідавана і адпаведна скасавана пасада І. Ф. Ермакова. У гэты ж час па сфабрыкаванай ДПУ БССР справе т. зв. «Саюза вызвалення Беларусі» ішлі масавыя арышты. Быў арыштаваны А. В. Баліцкі. Новы нарком асветы Беларусі А. М. Платун прапанаваў СНК БССР прызначыць І. Ф. Ермакова дырэктарам ствараемага аграпедагагічнага інстытута (сёння — Гомельскі ўніверсітэт імя Ф. Скарыны).

Аграпедагагічны інстытут двойчы наведваў нарком асветы А. М. Платун. Падчас апошняга наведвання ў лістападзе 1931 г. ён прапанаваў І. Ф. Ермакову пераехаць у Мінск і заняць пасаду рэктара Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. Іван Фядотавіч адмовіўся ад гэтага, тлумачачы, што ён па адукацыі сельскі настаўнік, у ВНУ сам не выкладаў, займаўся адміністрацыйнай справай, а таму ні ў адукацыйных праграмах, ні ў адзнаках падручнікаў ён правільна разбірацца не мае магчымасці. Аднак на падобныя пярэчанні ніхто тады не звяртаў увагі. У гэты час па ўсёй краіне адчыняліся сотні новых інстытутаў, а шмат хто з высокакваліфікаваных навукоўцаў

*(працяг на стар. 2)*



РОДНАЯ МОВА

## ГОДНА АДЗНАЧЫЛІ МІЖНАРОДНЫ ДЗЕНЬ РОДНАЙ МОВЫ

**Міжнародны дзень роднай мовы 21 лютага адзначаецца ў Беларусі з 2008 года. У Гарадку ў 2022 годзе адбыліся імпрэзы: конкурс чытальнікаў «Чытаем вершы па-беларуску», дыктоўка «Маё любімае беларускае слова», адкрыты мікрафон з вершамі нашых землякоў «Рыфмы сэрца майго» і іншыя.**

Першае літаратурнае свята «Сэрцам роднага слова краніся» адбылося 18 лютага ў літаратурна-музычнай гасцёўне Гарадоцкай райбібліятэкі.

Навучэнцы з 3 па 11 клас прымалі ўдзел ў конкурсе чытальнікаў «Чытаем вершы па-беларуску».

Гучалі вершы беларускіх паэтаў на роднай мове. Шчырыя, ідучыя ад самага сэрца радкі, нікога не пакінулі абыякавым.

Усе дзеці добра падрыхтаваліся, усе чыталі добра і ад душы.

Але, так як гэта быў конкурс, першыя месцы ў розных ўзроставых катэгорыях былі прысуджаны:

Узроставая катэгорыя 3-4 класы -- Куськоў Дзмітрый, Дзесятнікава Анастасія;

Узроставая катэгорыя 5-7 класы - Аўтушковай Ульяне,

Узроставая катэгорыя — 8-9 класы: Самсонаў Уладзіслаў, Чулкоў Кірыл;

Узроставая катэгорыя — 10-11 класы: Ніканенка Алёна.

Работнікі Гарадоцкага раённага краязнаўчага музея, да Міжнароднага дня роднай мовы паўдзельнічалі ў адкрытым мікрафоне з вершамі нашых землякоў «Рыфмы сэрца майго». Яны натхнена і з сэрцам прачыталі вершы Святланы Студзянцовай, Надзеі Карасёвай, Івана Рудэнкі і Міхаіла Мардашова.

На відэа магчыма пабачыць чытанне вершаў (назва і аўтар): 00:06 — "Я хачу, каб квітнелі сады..», Святлана Студзянцова 00:42 — «Родная мова», Надзея Карасёва 01:18 — «Зямля бацькоў», Іван Рудэнка 02:03 — «Пасля грукату, пыльнай чыгункі..», Міхаіл Мардашоў 02:43 — «Крыніцы», Іван Рудэнка. Далучайцеся да прагляду па спасылцы *https://youtu.be/jJY6gfURtvQ.*

Таксама ў Міжнародны дзень роднай мовы калектыў ДУДА "Гарадоцкі раённы цэнтр дзяцей і моладзі" далучыўся да рэспубліканскай беларускамоўнай дыктоўкі.

Пад час дыктоўкі яе удзельнікі з задавальненнем паслухалі вершы аўтара, педагога дадатковай адукацыі цэнтра дзяцей і моладзі, А.М.Войлакава.

А 22 лютага адбылася дыктоўка «Маё любімае беларускае слова» ў чытальнай зале Гарадоцкай райбібліятэкі.

Гэтая павага да роднай мовы мусіць быць не толькі ў супрацоўнікаў культуры і адукацыі, а найперш у супрацоўнікаў Гарадоцкага райвыканкаму. Але найперш на дзяржаўнай беларускай мове мусяць размаўляць кіраўнікі краіны, бо менавіта мова нас вылучае сярод іншых краін свету.

**Л. Антонаў**

ПАМЯЦЬ

## ГЕРАІЧНАЯ ДЗЯЎЧЫНА-ПАРТЫЗАНКА

**Менавіта такой была Паліна Патоцкая, якая нарадзілася ў Механаўскім (Гарадоцкім) раёне. Хто ж яна і чым знакаміта?**

Прадстаўляем вашай увазе матэрыял з «СБ — Беларусь сегодня» пра малавядомую старонку Вялікай айчыннай вайны, якая датычыцца публікацыі з газеты «Савецкая Беларусь» за 10 сакавіка 1943 года. У гады другой сусветнай вайны галоўная газета нашай краіны друкавалася па-беларуску і матэрыял мы публікуем на роднай мове нашай краіны.

Газета «Савецкая Беларусь» 10 сакавіка 1943 года паведамляла пра выставу беларускіх мастакоў у Маскве, якую прымеркавалі да 25-й гадавіны Чырвонага войска. У публікацыі адзначаліся прадстаўленыя там восем прац скульптара Заіра Азгура: «Праўдзіва і жыццёва, з вялікім майстэрствам адлюстраваны ў скульптурах вобразы палкаводцаў К. Ракасоўскага і Л. Даватара, Герояў Савецкага Саюза В. Казлова і М. Сільніцкага, М. Шмырова і Ц.Бумажкова, воіна-снайпера Смалячкова і дзяўчыны-партызанкі Патоцкай».

Калі ўсе гэтыя беларускія героі вядомы не аднаму пакаленню жыхароў нашай рэспублікі, то пра лёс дзяўчыны-партызанкі Паліны Патоцкай, думаю, мала хто ведае.

Паліна Фамінічна Патоцкая нарадзілася ў 1918 годзе (па іншых дакументах у 1919-м) у вёсцы Халік былога Механаўскага (цяпер Гарадоцкага) раёна Віцебскай вобласці. Перад вайной жыла ў пасёлку Езярышча, працавала ў Механаўскім аддзяленні дзяржбанка, адначасова завочна вучылася ў Віцебскім фінансавым тэхнікуме. З юных гадоў праявіла сябе актыўнай камсамолкай. У 1940 годзе стала членам Камуністычнай партыі. Калі фашысты акупавалі раён, перад Патоцкай не стаяла пытанне, што рабіць далей, — яна ўстала на шлях барацьбы з захопнікамі.

Ужо ў верасні 1941 года Паліна ўступіла ў арганізаваны ў раёне партызанскі атрад пад камандаваннем славутага Міхася Дзьячкова. Добра ведаючы мясцовасць, яна хадзіла ў разведку ў населеныя пункты, дзе размяшчаліся нямецкія гарнізоны, сачыла за перамяшчэннем воінскіх часцей, здабывала неабходныя звесткі. Адначасова гутарыла з мясцовымі жыхарамі, усяляла ў людзей надзею і ўпэўненасць у разгроме акупантаў.

Патоцкая 10 красавіка 1942 гады здолела неўзаметку для ворага вывесці ўзвод атрада на шашы Невель — Усвяты ў раёне вёскі Чурылава, дзе партызаны задаволілі засаду. У гэтым баі Паліна разам з іншымі байцамі смела і ўпэўнена вяла агонь па варожых аўтамабілях, якія рухаліся ў напрамку Чурылава, дзе размяшчаўся нямецкі гарнізон. Партызаны падбілі адну машыну і захапілі трафеі.

У іншы раз Патоцкая гэтак жа ўпэўнена вывела партызан да вёскі Лехава, дзе знаходзіўся буйны гарнізон суперніка. Удар быў настолькі нечаканым, што немцы не паспелі аказаць сур'ёзны супраціў. І тут разведчыца дзейнічала напорыста і самааддана. У гэтым баі атрымала лёгкае раненне. У яе біяграфіі ёсць выпадак выратавання з лап паліцаяў. Яна была з разведкай у раёне Невеля, калі яе схапілі. Дапамагла ёй уцячы мясцовая жыхарка….

*(скарочана)*

**Генадзь Баркун, гісторык, поўнасцю артыкул тут: www.sb.by**

НАШ ЗЯМЛЯК

*(пачатак на стар. 1)*

паехаў будаваць Беламорканал ці сячы лес. Адчуваўся вялікі недахоп навуковых кадраў. Згодна з пастановай калегіі Наркамата асветы БССР ад 16 лістапада 1931 г., І. Ф. Ермакоў з 1 снежня 1931 г. пачаў выконваць абавязкі рэктара БДУ, прыняўшы справы ад намесніка рэктара В. Р. Рудніцкага.

У канцы жніўня ці ў пачатку верасня 1933 г. І. Ф. Ермакоў быў вызвалены ад абавязкаў рэктара БДУ. Што паслужыла прычынай — пралікі ў арганізацыі набору студэнтаў ці тое, што яго непасрэдны кіраўнік А. М. Платун быў зняты з працы наркома асветы, ці недастатковы ўдзел у «чыстках», — можна толькі здагадвацца, бо загада Наркамата асветы ў архівах яшчэ не знойдзена.

Напачатку верасня 1933 г. І. Ф. Ермакоў быў выкліканы ў ЦК КП(б)Б. Там яму паведамілі, што ён прызначаецца начальнікам палітаддзела Шклоўскай МТС. Праца ў МТС была пастаўлена кепска. Частыя былі аварыі трактароў, прастої, перарасход паліва і г. д. Жорсткімі захадамі І. Ф. Ермакоў здолеў узняць дысцыпліну, аднак не ў яго сілах (ды і не яго справа) было знайсці добрае насенне, спыніць блытаніну ў разліках з калгасамі — усё тое, што было ўвогуле характэрна для сельскай гаспадаркі таго часу.

15 лютага 1935 г. пасля ліквідацыі палітаддзелаў МТС І. Ф. Ермакоў быў прызначаны сакратаром Шклоўскага райкама. Сакратар ЦК КП(б)Б Д. І. Валковіч (выпускнік рабфака БДУ) даверыў І. Ф. Ермакову, што будзе цэлы шэраг інструкцый і пастаноў цэнтральных устаноў, усе яны ўзгоднены і іх неабходна выконваць безумоўна і націскаць на іх выкананне.

У чэрвені 1937 г. І. Ф. Ермакова выклікалі ў Мінск. 22 чэрвеня па прапанове тагачаснага старшыні СНК Д. І. Валковіча І. Ф. Ермакоў стаў намеснікам старшыні Дзяржплана БССР. Літаральна праз 5 дзён старшыня Дзяржплана Любовіч і два яго намеснікі былі арыштаваны. У верасні 1937 г. і сам Д. І. Валковіч быў арыштаваны і расстраляны 27 лістапада 1937 г. Пасля арышту Д. І. Валковіча пасаду старшыні СНК заняў А. Ф. Кавалёў. Між тым і на І. Ф. Ермакова збіраўся «кампрамат». У партарганізацыю Дзяржплана ўжо 4 жніўня 1937 г. быў пасланы данос ад аднаго з былых работнікаў БДУ. У студзені 1938 г. адбыўся пленум Шклоўскага райкама КП(б)Б, на якім І. Ф. Ермакоў абвінавачваўся ў іншых «грахах» — «перагібах», «скрыўленні падатковай палітыкі», «парушэннях рэвалюцыйнай законнасці», «правядзенні класава-варожай палітыкі» і т. п. Пастановай бюро Шклоўскага райкама справа І. Ф. Ермакова была перададзена ў Мінск, у Кагановіцкі райкам КП(б)Б .

11 жніўня 1938 г. І. Ф. Ермакоў быў арыштаваны. Падчас вобыску, акрамя розных дакументаў і перапіскі, быў канфіскаваны пісталет «браўнінг» з патронамі — сапраўдная знаходка для следства. Раз ёсць пісталет — значыць, тэрарыст. І. Ф. Ермакову інкрымінаваўся актыўны ўдзел у «нацфашысцкай арганізацыі». Вельмі хутка Іван Фядотавіч «даў» патрэбныя паказанні з прызнаннем у дзейнасці ў нацфашысцкай арганізацыі, аб прыёме на працу варожых элементаў, шавіністычным выхаванні студэнтаў, шкодніцтве ў сельскай гаспадарцы і г. д. Неабходны былі «сапраўдныя» палітычныя ворагі. І хутка І. Ф. Ермакоў вымушаны быў пачаць абгаворваць і сябе і іншых у планах звяржэння савецкай улады і ўсталявання ў Беларусі буржуазнага ладу. Аднак тых людзей, пра якіх казаў І. Ф. Ермакоў, ужо не было ў жывых: А. Р. Чарвякоў, М. М. Галадзед, Я. Б. Гамарнік, Д. І. Валковіч, А. М. Платун... З іх спытаць ужо было немагчыма. 29 красавіка 1939 г., па сканчэнні следства, І. Ф. Ермакоў, не прызнаючы сябе вінаватым, піша заўвагі па матэрыялах следства, яшчэ раней ён напісаў скаргу на імя наркома ўнутраных спраў БССР аб збіцці яго падчас следства, аб абгаворы сябе і іншых. Следства па справе І. Ф. Ермакова ўсё больш зацягвалася. У сакавіку 1939 г. справа пайшла на разгляд у ваенную пракуратуру, у чэрвені — у ваенны трыбунал БАВА. 15 лістапада 1939 г. справа была вернута ва НКУС на дадследаванне. 29 снежня 1939 г. справа па абвінавачванні І. Ф. Ермакова ў антысавецкай і контррэвалюцыйнай дзейнасці была спынена, а 30 снежня Іван Фядотавіч быў вызвалены пад падпіску аб нявыездзе. З турмы выйшаў чалавек са зламаным здароўем і пастарэўшы на шмат год.

Цяпер Івану Фядотавічу было прад'яўлена абвінавачванне ў злоўжыванні службовым становішчам, канфіскацыі ў сялян маёмасці за нявыплату імі дзяржпаставак і плацяжоў і незаконным захаванні агнястрэльнай зброі — пісталета «браўнінг».

Хутка, аднак, высветлілася, што І. Ф. Ермакоў як сакратар райкама КП(б)Б меў права на нашэнне зброі, толькі своечасова не працягнуў тэрмін яе захоўвання. Гэты пункт абвінавачвання адпаў. Па астатняму намеснік пракурора БССР па спецсправах вынес рашэнне аб тым, што, хоць парушэнні рэвалюцыйнай законнасці ў Шклоўскім раёне і мелі месца, але яны пасля адпаведных указанняў ЦК і СНК БССР былі своечасова выпраўлены. 11 студзеня 1940 г. крымінальная справа па абвінавачванні І. Ф. Ермакова была спынена.

Далейшы жыццёвы шлях Івана Фядотавіча як бы пайшоў па другі круг. Яго прызначылі рэктарам Мінскага педагагічнага інстытута, зноў не звярнуўшы ўвагі на адсутнасць адпаведна высокай адукацыі.

А потым была вайна, якую Іван Фядотавіч, як раней грамадзянскую, прайшоў камісарам. Пасля дэмабілізацыі ў 1946 г. ён зноў становіцца рэктарам — цяпер ужо Аршанскага настаўніцкага інстытута. На гэтай пасадзе І. Ф. Ермакоў працаваў доўга, цэлых 7 год. Па прадстаўленні міністра адукацыі БССР рашэннем ЦК КПБ ён быў па стане здароўя (амаль цалкам страціў зрок) адпраўлены на пенсію ў красавіку 1953 г. Пенсію прызначылі персанальную...

Пра гэта магчыма прачытаць у кнізе А.А. Яноўскага «Гісторыя Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта ў біяграфіях яго рэктараў» выдадзенай БДУ у 2001годзе.

**Л. Антонаў**

УЗНАГАРОДА

# ЧАРГОВАЯ ЎЗНАГАРОДА НА НАЦЫЯНАЛЬНЫМ УЗРОЎНІ

**Нагрудным знакам «За ўклад у развіццё культуры Беларусі» ўзнагароджаны зямляк, майстар Гарадоцкага дома рамёстваў і фальклору Васіль Паўлавіч Сіманковіч.**



Васіль Паўлавіч — народны майстар Рэспублікі Беларусь, аўтар асаблівага стылю пляцення з прымяненнем лазовай кары. Майстар плённа займаецца навукова-даследчай працай па аднаўленню архаічных спосабаў пляцення з лазы і саломы. Валодае ўменнем пляцення з альхі, чаромхі, алешніку, лазы і саломы з выкарыстаннем кораня хвойных парод дрэў. Распрацаваў уласны аўтарскі стыль пляцення вырабаў з выкарыстаннем лазовай кары. На аснове мясцовых лакальных традыцый стварыў калекцыі кошыкаў з лазы, вырабаў з саломы ў тэхніцы спіральнага пляцення і саламяных павукоў.

Майстар авалодаў старажытнай традыцыйнай тэхнікай спіральнага пляцення з выкарыстаннем саломы заплеценай лентай з лазы, або з кораня сасны. Майстрам створана калекцыя спіральных вырабаў па этнаграфічных узорах, знойдзеных у экспедыцыях па Гарадоцкаму раёну.

Заўсёды звяртаюць на сябе ўвагу вырабы Васіля Сіманковіча народнага майстра Рэспублікі Беларусь, майстра лозапляцення і спіральнага пляцення на шматлікіх фестывалях і святах.

З 2008 года Сіманковіч В.П.- член Беларускага саюза майстроў народнай творчасці. У 2016 годзе Сіманковічу В.П. прысвоены статус народнага майстра Рэспублікі Беларусь.

Народны майстар валодае старажытнай тэхнікай спіральнага пляцення, якое ў 2020 годзе атрымала статус гісторыка-культурнай каштоўнасці Беларусі.

Работы майстра адрозніваюцца адметным стылем і добрым густам.

Узнагароду Сіманковічу В.П. ўручылі ў рамках правядзення выніковай калегіі Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь. Віншуем народнфага майстра!

**Л. Антонаў**

МЕРКАВАННЕ

# «БЕЛАРУСЬ ПАЎСТАЛА, І ЦЯПЕР БЕЛАРУСЫ САМІ ПАД АКУПАЦЫЯЙ»

**Расія не выпусціла б з рабства паняволеныя народы, як толькі праз чарговую вайну, якая б адкрыла вочы тым, хто шчэ заставаўся сляпы, піша ў Фэйсбуку Зміцер Дашкевіч.**

У гэтыя жахлівыя дні дазвольце сказаць вам адну банальнасць, адну заўвагу і адну прапанову.

**Банальнасць**

Пачну з банальнасці, якая многім была зразумела даўно, але некаторыя прыходзяць да яе толькі цяпер: па-іншаму Расія не выпусціла б з рабства паняволеныя народы, як толькі праз чарговую вайну, якая б адкрыла вочы тым, хто шчэ заставаўся сляпы. Бо калі людзі, якія чыталі кнігі па гісторыі, казалі, што Расія — гэта вайна, іх ніхто не хацеў разумець. Не разумелі ў 90-ых, не разумелі ў 2008-м пасля ўварвання ў Грузію, не разумелі нават у 2014-м пасля анэксіі Крыму і вайны на Данбасе. Ну, мо зразумеюць цяпер. Калі зразумеюць, тады станучца вольнымі ад прарасійскай свядомасці, ад комплексаў малодшых братоў ці сясцёр — свабоднымі ад маскоўства ў галаве. Трагедыя, што для гэтага разумення мусяць ліцца рэкі крыві, але такая ўжо чалавечая існасць — на гісторыі вучыцца не хочам.

**Заўвага**

Шмат хто цяпер ва Украіне і некаторыя беларусы пішуць пра тое, што Беларусь — агрэсар, такі ці ледзь не такі ж, як Расія. Бясспрэчна, што тэрыторыя Беларусі выкарыстоўваецца для атакі на любімы намі брацкі народ Украіны, за што нам прыкра і сорамна. Але ці не разумеюць каментатары, што беларусы самі пад акупацыяй? Ніхто ж не кажа: крымска-татарскі народ напаў на Украіну, бо яны самі пад акупацыяй, ці не так? Ніхто ж не кажа: Данбас напаў на Украіну, бо данбасаўцы самі пад акупацыяй, ці не так? Чаму тыя ж людзі, хто так не кажа, абвінавачваюць беларусаў? Каго вы абвінавачваеце? Тысячы тых, хто сядзіць без віны па турмах і дзясяткі тысячаў іх родных? Дзясяткі ці сотні тысяч тых, хто ў выгнанні? Ці вы абвінавачваеце тых, хто застаўся і кожную раніцу чакае, ці арыштуюць?

Калі ў кагосьці не хапае розуму зразумець, у якім тэроры цяпер жыве грамадства Беларусі, то ўявіце сабе наступную карціну. Менск, 1943 год, Беларусь пад акупацыяй. Тыя, хто вырваўся ў вольны свет, выдаюць улёткі: «Здраднікі, чаму не выходзіце на антываенныя пікеты?!» Ну, хай бы выйшлі на гітлерштрасэ і атрымалі кулю ў лоб і выраклі б сваю сям'ю на катаванне ў гестапа. Калі б Беларусь не паўстала супраць акупацыі, калі б мы мірна і спакойна гулялі па нашых праспектах, то гэта была б праўда. Але Беларусь паўстала, і цяпер беларусы самі пад вайсковым становішчам, самі пад акупацыяй.

**Прапанова**

І калі ў каго шмат нахнення і энергіі, то я пераходжу да прапановы, куды гэтую магутную сілу накіроўваць. Бярыце прыклад з лаўрэата Нобелеўскай прэміі міру і рэдактара «Новай Газеты» Дзмітрыя Муратава, які пасля афіцыйнага нападу Расіі на Украіну надрукаваў сваё выданне па-ўкраінску. Нацыянальная мова акупанаванага ці паняволенага Расіяй народу — гэта наша самая надзейная і самая беспечная зброя за свабоду. Карыстайцеся ёю штодня і паўсюль — і ніхто не прыйдзе вызваляць «рускагаварашчых саацечэствіннікаў». А найперш бярыце прыклад з Ісуса Хрыста, Які заклікае заўсёды маліцца і абяцае нам: «Калі будзеце мець веру і скажаце гары гэтай: „Будзь узятая і кінутая ў мора!“ — станецца так». І сёння мы молімся за Украіну і кажам гэтай Бабілонскай гары: «Будзь узятая і кінутая ў мора, каб на табе ўжо ніколі не трымаліся злачынныя рэжымы ўсяго свету, каб гэта было тваё апошняе крывавае вывяржэнне».

**Паводле: novychas.online**

АГРЭСІЯ

# ПЕРЕГОВОРНЫЙ ПРОЦЕСС ИСПОЛЬЗОВАЛСЯ МОСКВОЙ ДЛЯ ПРИКРЫТИЯ ПЛАНОВ ВТОРЖЕНИЯ

**Оно произошло — неожиданно и вероломно, как в 1941 году. Аналитик Павел Мацукевич пишет о последствиях российской агрессии для Беларуси. «Кремль не удосужился состряпать хотя бы хрупкую провокацию, а просто обвинил Украину в том, что она есть».**




— Скажу откровенно: в моих раздумьях возможности масштабного вторжения РФ в Украину не находили разумных аргументов в свою пользу. Однако вторжение произошло — неожиданно и вероломно, как в 1941-м. Владимир Путин настаивает, что оно вынужденное и называет такие причины, что стыдно даже за него. Кремль не удосужился состряпать хотя бы хрупкую провокацию, а просто обвинил Украину в том, что она есть.

Оценивать агрессивные действия РФ с рациональной точки зрения сложно и, наверное, бессмысленно. Можно с моральной, а лучше с правовой. Хотелось бы, чтобы дошло до всех в Беларуси, что страна втянута в очень злое дело и молчать, а тем более оправдывать это, мягко говоря, неприлично.

Международная дипломатия оказалось не способной сдержать Россию. Очевидно, переговорный процесс использовался Москвой для прикрытия планов вторжения и прощупывания почвы — на что готов Запад, а на что нет. Пока Россию уговаривали не нападать на Украину, Кремль готовился к нападению, сливая ложные даты.

К сожалению, Запад не стал брать Украину под свою военную защиту, сформулировал только санкционный ответ на угрозу и начал поставлять оружие, которое, очень может быть, лишь подогрело агрессию Москвы.

Сложно сказать, как далеко простираются цели путинской России. Не исключено, что Кремль вознамерился сменить власть в Украине на прокремлевские силы. Вполне возможно после этого российские военные вернутся в РФ и Беларусь во избежание обвинений в оккупации, но не факт. Да-да, нужно свыкнуться с мыслью, что просто так из Беларуси они уже не уйдут.

Куда важнее, что этому вторжению противопоставит Запад. Пока, по всей вероятности, речь идет о жестком санкционном ответе. Он наверняка будет чувствительным для России (бедные — обеднеют), но замыслы Кремля важнее. В демократиях правительства думают о каждом, в России царь думает о важном. Пострадает бизнес, люди, но разве родину ГУЛАГа напугать отключенным СВИФТом?

Кремль наверняка оценивал возможные риски, но все равно пошел на вторжение, понимая, что привитое ложным патриотизмом население «стерпит-смирится» с вероятными невзгодами. Голоса несогласных заткнут милицейской дубинкой.

Энергетическая зависимость от РФ хорошо разъедает международную изоляцию. Есть и другая штука — даже самые жесткие из санкций с течением времени смягчаются, часто просто по мере смены правительств в западных странах. На Западе ротация политиков проходит каждые 4-5 лет, кому-то удается остаться у власти на два срока.

Значит, где-то в диапазоне 5-10 лет или около этого со всей вероятностью начнется смягчение. В России правят дольше и могут подождать и дождаться, когда Запад выступит инициатором возобновления диалога, как это было после российско-грузинской войны в 2008 году. В Кремле на это рассчитывают.

Вовсей этой истории наиболее позорная роль у Беларуси. РФ развязала войну, поставив целью «денацификацию и демилитаризацию Украины», что в переводе на любой язык называется агрессией. Украина обороняется, защищает свою свободу, независимость, территорию, граждан, жизнь, поэтому ее война справедливая. За что «сражается» Беларусь на стороне агрессора?

Беларусь влезла не «за», а «из-за». Путинская Россия идет на поводу у своих целей и интересов. Беларусь идет тоже на поводу путинских. Лукашенко задолжал Кремлю и втянул нас в войну, предоставив территорию нашей страны для российских военных и вооружений и этим оформив соучастие в агрессии.

Белорусская территория была использована Россией для наступления на Украину. Лукашенко отрицает участие наших вооруженных сил в боевых действиях. Возможно, это и так, но где гарантии, что так и будет?

Из этой истории есть только один приличный выход — выход из войны. Это означает осудить агрессию и потребовать от руководства России немедленного вывода с территории Беларуси российских войск.

Лукашенко не может даже декларативно дистанцироваться от вторжения РФ в Украину. Хуже того, он обвинил в российской агрессии Киев. От бессилия что-ли.

Последствия соучастия Беларуси в нападении на Украину будут болезненными и морально, и материально. Экономический ущерб пока сложно калькулировать. На коротком историческом отрезке, наша страна определенно ощутит на себе воздействие новых санкций.

**gazetaby.info**

НОБЕЛЕЎСКІ ЛАЎРЭАТ

# “ЧЫРВОНЫ ЧАЛАВЕК ЗНОЎ ПАДНЯЎСЯ І ДАЕ НАМ БОЙ. СПАДЗЯЮСЯ, АПОШНІ”

**Нобелеўскі лаўрэат Святлана Алексіевіч аб тым, навошта Пуціну вайна, чаму ўдзел у ёй Беларусі — здрада і што будзе з Украінай далей.**

Апошнія тыдні Святлана Алексіевіч уважліва сачыла за тым, што адбываецца ва Украіне, але яшчэ літаральна ўчора не магла сабе ўявіць, што пачнецца вайна і рэальныя баявыя дзеянні, піша dw.com. У пачатку лютага яна дыскутавала з пісьменніцай Гертай Мюлер і пераконвала яе, што «Пуцін не вар'ят» і не можа так паступіць. «Аказваецца, можа», — са шкадаваннем кажа нобелеўскі лаўрэат.

***— У вас ёсць разуменне — навошта Пуціну вайна?***

— Думаю, ён адчувае сябе Месіяй. Рэдкі чалавек можа застацца ва ўладзе так доўга і выстаяць перад яе спакусай, як, напрыклад, здолела Ангела Меркель. Пасля двух тэрмінаў пачынаецца адрыў чалавека ад рэальнасці, ён жыве ва ўласнай прасторы, якая выбудоўваецца з кавалкаў зносін са сваім асяроддзем. А такія людзі ў асноўным маюць зносіны з сілавікамі. Аляксандра Дугіна ў 1990-я, у часы дэмакратыі, лічылі маргіналам. А сёння гэта прыдворны філосаф Пуціна.

***— Сёння Уладзімір Зяленскі звяртаўся не толькі да ўкраінскага народа, але і да расіян: заклікаў пратэставаць супраць вайны. Як думаеце, Расія прачнецца?***

— У мяне вялікія сумневы. Магчыма, толькі калі з'явяцца першыя труны. Чамусьці здаецца, што загінулых будзе шмат.

Расійскаму народу патрэбны час. У яго цяпер нейкая анемія, ён быццам у летаргічным сне ад таго, што пераеў, ад таго, што многае не прагаворана ў грамадстве. А гэта так важна. Немцы кажуць і кажуць аб нацызме, хоць столькі гадоў прайшло. Ужо некаторыя нават выступаюць супраць: «колькі можна каяцца?» А яны каюцца і каюцца, пакольні, напэўна, не давяраюць чалавечай прыродзе. І гэта дае плён: у гэтым грамадстве прыемна жыць, улада знаходзіцца ў руках у разумнай большасці.

Хутчэй, людзі выйдуць і будуць пратэставаць у Германіі, Партугаліі, Іспаніі. Нажонт расіян — не ведаю. З беларусамі больш зразумела: выйсці на вуліцу цяпер — значыць трапіць у турму, дзе над людзьмі жорстка здзекуюцца.

***Святлана Алексіевіч мяркуе, што сёння пуцінская Расія ўяўляе сабой абражаную прыніжаную імперыю, а такія дзяржавы здольныя на страшныя дзеянні. Прыклад таму — нацысцкая Германія 1930-х гадоў.***

— Тое, што мы сёння назіраем, — гэта 1930-я гады, калі да ўлады ў Германіі прыйшоў чалавек і сказаў: «Я падыму вас з каленяў, мы будзем вялікай дзяржавай». Пачынаў ён сапраўды гэтак жа: вяртаў «свае» землі — Судэты, тэрыторыю Польшчы. А потым пайшоў заваёўваць ўвесь свет. Па-моему, так пачынаецца фашызм.

Цалкам зразумела, што Пуцін не спыніцца на бамбёжках Украіны, напэўна будуць акупаваныя ўкраінскія тэрыторыі, пачнецца доўгая партызанская вайна. Бо ўкраінцы не тыя людзі, якіх можна проста разагнаць.

Але яны не хацелі ваяваць і ўвесь час шукалі шляхі для перамоваў па Данбасе. Цяпер многія гатовыя абараняць сваю Радзіму. У цэлым, у мяне сёння нават не хапае слоў, каб зразумець тое, што адбылося і выразна пракаментаваць. Дарэчы, вырашыла, што кніга пра Беларусь не будзе заканчвацца толькі нашымі праблемамі. У ёй будзе выхад на вайну, на тое, што адбываецца. Што «чырвоны чалавек» не памёр — ён зноў падняўся і зноў дае нам бой. Спадзяюся, апошні.

***На думку Святланы Алексіевіч, Лукашэнка ўсведамляе, што знаходзіцца ва ўладзе Пуціна, але ён не можа не падтрымаць Расію ў гэтай кампаніі: для яго гэта адзіны спосаб захаваць уладу і выжыць палітычна.***

— Не думаю, што ён хоча ўдзельнічаць у вайне з украінцамі. Але ён будзе пастаўлены перад фактам. Яго абмыюць крывёю, як ён сам абмыў сваіх сілавікоў. Гэты прынцып ўсюды дзейнічае аднолькава. Яны ж не жывуць па законах дыпламатыі, грамадзянскай супольнасці. Гэта ўсё — не хочацца прамаўляць гэтыя словы — бандыцкія паняцці.

Калі я слухала лекцыю Пуціна пра памылкі Леніна, у мяне ўзнікла пытанне: дзе ён нахапаўся гэтай няпраўды, гэтых паўзнанняў, якія яму выклікала непісьменнае асяроддзе? Нібы Украіна — гэта неспадзяваная краіна з больш за 40 мільёнамі жыхароў. Хоць за сябе і сваю свабоду яна ваявала яшчэ з Кацярынай Другой.

***— Украінцы сталі ворагамі з Расіяй калі не на стагоддзі, то дакладна на дзесяцігоддзі. Як у гэтай сітуацыі не пасварыць украінцаў і беларусаў, калі расійскія войскі прыйшлі ў тым ліку з тэрыторыі Беларусі?***

— Пра гэта павінен думаць Лукашэнкі, калі ён называе сябе галоўнакамандуючым. Інакш гэтая разяўленая рана надоўга застанецца ў гісторыі. Украінцы апошнім часам перанеслі столькі выпрабаванняў і панеслі шмат ахвяр. Для іх удар ад Беларусі — гэта як удар у спіну, здрада. Нядаўна я глядзела рэпартаж журналістаў, якія гаварылі з людзьмі, якія жывуць на беларуска-ўкраінскай мяжы. «Што вы? Беларусы — нашы браты, яны ніколі не будуць у нас страляць», — сказалі ўкраінцы. І вельмі падобна адказвалі беларусы: «А што нам зрабілі ўкраінцы? Нічога». Простыя людзі разумнейшыя палітыкаў. Сёння нашы грамадства абагналі іх.

Украінцы вельмі горды народ — я ўсё дзяцінства правяла сярод іх. Што б яны цяпер ні рабілі — хадзілі па вуліцах, размаўлялі адзін з адным — над імі цяпер вайна. Але нават вайной гэта нельга назваць — гэта здрада, калі браты раптам усаджваюць у спіну нож. Я не думала, што сама магу апынуцца на вайне, калі ўвесь час разглядала яе збоку, нават калі была ў Афганістане. А цяпер мы на вайне.

Страшна ўявіць сабе, што будзе з людзьмі, якія будуць ваяваць. Яны ж думалі жыць у будучыні, а не ў мінулым...

*(пераклад)*

**«Новы Час»**

ДЗЕНЬ РОДНАЙ МОВЫ

# РОДНАЯ МОВА: ГАНАРЫЦЦА, ВЕДАЦЬ, УЗБАГАЧАЦЬ

**У кожнага народа ёсць хаця б адзін геніяльны твор — гэта яго мова** (рэд. — так сказаў наш паэт Алесь Разанаў). **Выказванне, з якім нельга не пагадзіцца. Недарэмна ў свеце вось ужо больш за дваццаць гадоў адзначаецца Дзень роднай мовы... Той самай, што, па выразе Максіма Танка, сатканая ў нас «з легендаў і казак былых пакаленняў, з калосся цяжкога жытоў і пшаніц, з сузор'яў і сонечных цёплых праменняў, з грымучага ззяння бурлівых крыніц...».**




Час ідзе, змянілася вёска, якая традыцыйна лічылася захавальніцай слоўных скарбаў, з'явіўся інтэрнэт, які размывае ўсе наяўныя нормы і перакройвае свядомасць, дадалося эксперыментаў літаратараў... Як гэта паўплывала на беларускую мову? Разважаюць дырэктар выдавецтва «Мастацкая літаратура» Алесь Бадак, кандыдат філалагічных навук, дацэнт кафедры медыялінгвістыкі і рэдагавання журфака БДУ Пятро Жаўняровіч і я, пісьменніца, рэдактар аддзела культуры «Звязды» Людміла Рублеўская.

**Пра мову літаратурную і ўжытковую**

Л. Рублеўская. Мова — адзіная жывая стыхія, але заўсёды існуюць побач мовы ўжытковая і літаратурная... А ёсць яшчэ і мова мастацкіх твораў. Як яны сёння адрозніваюцца? Калі на пачатку ХХ стагоддзя выпрацоўвалі нормы літаратурнай мовы, гэта быў вельмі складаны працэс. Напрыклад, выбіралі, гаворку якога рэгіёна ўзяць за ўзор. Сёння ж у кожнай мастацкай кнізе, лічыце, свой моўны канон... Можа, гэта і слушна?

П. Жаўняровіч: Літаратурная мова — прыкмета адукаванага чалавека. Але нярэдка класічныя мастацкія творы маюць уплыў дыялектаў, такім чынам, у Івана Пташнікава — адзін варыянт мовы, у Вячаслава Адамчыка — другі, у Івана Мележа — трэці... Увод у мову дыялектызмаў — пытанне адкрытае. Яны, з аднаго боку, папаўняюць мову, з другога — ці паўсюль іх можна выкарыстоўваць?

А. Бадак: Калі я працаваў у «Бярозцы» ў пачатку 1990-х, мы шмат эксперыментавалі з мовай... Ужывалі тарашкевіцу, прыдумлялі новыя словы... Не ведаю, як ставіліся да гэтага мовазнаўцы.

Л. Р.: Тады быў час, калі імкліва мянялася жыццё, у такія перыяды, думаю, кожны мае права зрабіць свой унёсак, узбагачаць мову як можа, а час непатрэбнае адсее. І не мовазнаўцы, а пісьменнікі мову ўзбагачаюць. І я за тое, каб як мага больш і цяпер дадавалася — новых слоў, формаў...

П. Ж.: Трэба ў літаратурнай мове трымацца нормы. Гэтак у Расіі абураліся — як гэта мы будзем выкарыстоўваць слова «кофе» толькі ў мужчынскім родзе? Але калі сёння ў інтэрв'ю чалавек кажа «вкусное кофе», гэтым паказвае сваю культуру маўлення. У нас жа няма законаў, як у той жа Францыі, калі праглядае СМІ спецыяльная камісія і штрафуе выданні за выкарыстанне непатрэбных англіцызмаў.

А. Б.: Адно, калі мы кажам пра формы слоў, скажам, «наагул» ці «наогул», і іншае, калі кажам пра дыялекты. У нас у выдавецтве ў серыі «Залатая калекцыя беларускай літаратуры» выйшаў том беларускага апавядання 1920–30-х гадоў. Мне ён цікавы словамі, многія з якіх проста забытыя. І важна, каб як мага болей такіх сакавітых слоў захавалася ў мастацкіх тэкстах, таму што носьбіты, на вялікі жаль, сышлі…У горадзе беларускамоўная інтэлігенцыя гаворыць менавіта на літаратурнай мове, і ў любым горадзе яна гучыць падобна... У той час як прыедзеш у вёску на Брэстчыне — пачуеш агромністую розніцу з мовай, на якой гавораць у вёсцы на Віцебшчыне.…

**Пра крыніцы ўзбагачэння**

П. Ж.: Так, мова — жывы арганізм, яна ўвесь час узбагачаецца. Сёння, напрыклад, з'явілася шмат новых слоў, звязаных з каранавірусам. Але ў апошнім акадэмічным слоўніку беларускай мовы 2012 года слова «каранавірус» няма. Расіяне выдаюць новы слоўнік раз на год, у нас дзесяць прайшло... Сярод крыніц узбагачэння мовы — дыялектызмы, гістарызмы. Калі ў 1990-х мы пісалі, што Францыск Скарына атрымаў званне бакалаўра, гэта слова было ў пасіўным складзе мовы. Сёння словы «магістр», «бакалаўр» вярнуліся ў актыўны ўжытак.

Л. Р.: Але ж ведаю выпадкі, калі словы і сёння адмыслова прыдумляюць ці адшукваюць, каб папулярызаваць.

П. Ж.: Можа, нейкія такія словы і прыжывуцца. Працэс сціскання мовы не спыніцца. Таму што мы ніколі не скажам сёння «пабягу на маршрутнае таксі», скажам: «на маршрутку». А Ірына Шкраба ў сваім слоўніку падае больш за дзве тысячы безэквівалентных слоў: «сёлета», «знічка», «палавец»... Вось дзе трэба браць багацце — з народнай мудрасці!

Л. Р.: Ва ўрыўку са свайго рамана, які ўзялі для ўсебеларускай дыктоўкі, я адмыслова пакінула слова «цікавостка», хоць тады гэта не было маім звычайным ужытковым словам. Вырашыла трохі падтрымаць распаўсюд гожага слоўца.

П. Ж.: Калі слова ўжывае ў сваіх творах некалькі пісьменнікаў, яго спакойна можна браць у картатэку. Памятаю, як я аналізаваў Караткевічава слова «прыўкрасны». Адразу яго перанялі тыя, хто меў адносіны да гістарычнай літаратуры.

Л.Р: Я, напрыклад.

П. Ж.: Потым, гляджу, слоўнік новых слоў ужо фіксуе гэтую лексему, хаця, напрыклад, шаноўны Алесь Каўрус выступіў за яе непрыняцце. Караткевіч на машынапісе «Зямлі пад белымі крыламі», дзе рэдактарам закрэслена слова «прыўкрасны», на палях піша: «Ёсць такое слова. Глядзі Раманава». Відаць, меў магчымасць чытаць тамы этнографа Раманава ў Кіеве, у нас жа тыя рарытэты згарэлі падчас вайны…

П. Ж.: Класіка павінна быць на першым месцы. Лепш, чым пісаў Янка Брыль, сёння напісаць вельмі цяжка. А некаторыя пісьменнікі пачынаюць, нібыта да іх ніхто не пісаў. Караткевіч жа казаў: мы ўсе быццам мазаіка — выцягні які каменьчык, няхай не самы значны, але ён займае сваё месца, і ўвесь узор разбурыцца.

А. Б.: Дзе ёсць Брыль і Купала, павінна быць і сучасная літаратура. Кожная маладая генерацыя працуе па-свойму, не паўтараючы папярэднікаў, не лепш і не горш. Параўноўваць класікаў ХХ стагоддзя з сённяшнімі пісьменнікамі — памылковы шлях.

**Пра мову гістарычных твораў**

…А. Б.: … Вялікую справу зрабіў Алесь Разанаў, калі пераклаў на сучасную мову творы беларускіх пісьменнікаў сярэднявечча. Мы не ведаем, што ёсць такая літаратура, бо не можам яе прачытаць.

П. Ж.: У беларускай мове засталіся элементы стараславянскай мовы, якіх у рускай няма. Напрыклад, дзеяслоўная форма плюсквамперфекта ў рускай мове ператварылася ў часціцу «было»: «он сказал было», «она сказала было». У беларускай мове — «сказаў быў», «сказала была», у залежнасці ад роду. Таму, калі ў беларускага аўтара каша ў галаве ў сітуацыі білінгвізму і ён думае і на адной мове, і на другой, так атрымліваецца і ў тэксце.

Л. Р.: Мы шмат прапусцілі, той жа перыяд рамантызму ХІХ стагоддзя, калі ў іншых культурах вербалізавалася і гераізавалася нацыянальная гісторыя. Дык няхай запозна — але ўсё запаўняецца.

А. Б.: Калі замест тарашкевіцы прынялі наркамаўку, праблем не ўзнікла, бо было шмат носьбітаў мовы. А я вось, як аўтар тэкстаў для песень, цяпер сутыкнуўся з тым, што спевакі, якія не вельмі добра ведаюць мову, вымаўляюць так, як напісана — «снег», «не ведаю», і мне даводзілася проста на партытуры дапісваць алоўкам у слове «снег» мяккі знак пасля «с» і пазначаць пераход «е» ў «я» перад націскам…

П. Ж.: І нагадваць, што носьбітаў беларускай мовы ў свеце намнога больш, чым той жа македонскай ці славенскай. І македонцы ці славенцы сваіх моў не саромеюцца.

А. Б.: У мове столькі таямніц... Мы неяк з Андрэем Федарэнкам размаўлялі, я пытаюся: «Як у вас называюць у вёсцы зялёныя парасткі цыбулі?» Ён кажа: «Стрэлкі...» — «А ў нас — пішчы». — «О, — кажа, — дык можа, адсюль пайшло «пішчом лезці»?

Л. Р.: Мову ніколі да канца не вывучыш. Увесь час адкрываеш для сябе новыя словы, формы, выразы. І я ўсё жыццё з задавальненнем раблю для сябе гэтыя адкрыцці.

*(значна скарочана)*

**Людміла РУБЛЕЎСКАЯ**
**zviazda.by**

АГРЭСІЯ

# «ПОСЛЕДНИЙ РАЗ ЭТО БЫЛО РАНО УТРОМ 41-ГО...»

**Почему за войну ответят все.**

— Все, что я знаю об истории, говорит о том, что подобная авантюрная политика никогда не оставалась безнаказанной, — пишет на Эхе Москвы научный сотрудник University College London Владимир Пастухов. — Не вижу ни одного основания для того, чтобы история сделала именно в отношении Путина какой-то особый зигзаг и на этот раз было как-то иначе, чем обычно.

Ответит не Путин — ответят все. И те, кто хлопал, и те, кто просто стоял рядом открыв рот, но ничего не делал, и первые ученики, и двоечники. Это не ошибка Путина и не ответственность Путина. Это ошибка всей нации, в той степени, в которой о ней можно говорить в России, и ее ответственность. Бремя будет на всех.

Бумеранг вернется не быстро, но неотвратимо. Чем громче и веселее будет играть военный марш вначале, тем отвратительнее будет похоронный в конце, тем дольше и мучительней будет агония. Цена будет невероятно высокой, о которой страшно думать.

Это война уже проигравшего Путина. План был другим. Ждали капитуляции и западных послов. Загнали себя в угол, из которого не нашли выхода. Понятна мизансцена на шоу Совета безопасности. Да, это был сбор подписей кровью, чтобы никто не соскочил.

Фатальная недооценка Запада. Судят по текущим фрикам и думают, что это и есть Запад. Запад силен своим вторым институциональным слоем и в общем умеет объединяться против чужаков. Он видел в своей истории разных гуннов и умеет их готовить. Каждый раз, когда Россия выступала против единого Запада, это заканчивалось для нее катастрофой. Раскола Запада не произошло, а остановиться уже не смогли.

Даже если предположить, что операция закончится за несколько дней малой кровью и установлением в Киеве марионеточного режима, это ничего не меняет в горизонте 4-8 лет. Оккупация Украины, прямая или косвенная, станет удавкой на шее России. Западу тоже придется не сладко, но он выдержит. Это хуже, чем военное преступление — это военная авантюра. Нервный срыв элит.

Последний раз это было рано утром 41-го. Но тогда это не было делом рук братского народа. Тот страшный сон длился четыре года. Не настраивайтесь на быстрое пробуждение. И на этот раз утро наступит не завтра. Ночь будет долгой.

**gazetaby.info**

**Заснавальнік і рэдактар:** Гаравы Леанід Антонавіч

**Адрас рэдакцыі:** 211573, г. Гарадок, вул. Гагарына, д.30Б, кв.16. E-mail: leo592202@gmail.com Тэл. 8-02139-5-08-52, маб. + 375(29)6723842 (V), Газета выдаецца з сакавіка 1998 г.

**Падпісана да друку 28.02.2022 у 17.55**
Наклад: 290 асобнікаў.
Выдаецца адзін-два разы на месяц на беларускай і расійскай мовах.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Друкуецца на абсталяванні аднадумцаў.
Распаўсюджваецца бясплатна дабраахвотнікамі.